Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкратар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 15 (103) | Вільня, 30-га кастрычніка 1936 г. | Год 4-ты.

## Ізноў хмары над Эўропай.

Гішпанская хатняя вайна вельмі лёгка можа разгарэцца ў агульна-эўрапэйскую, а нават і ў новую сусьветную вайну. А гэта таму, што ў гішпанскай вайне сплятаюцца інтарэсы шмат якіх эўрапэйскіх дзяржаў, як Англія, Францыя, Нямеччына, Італія ды Саветы.

Англія заўсёды пільна сочыць за рознымі здарэньнямі ў тых краёх, якія знаходзяцца на шляхох Англіі ў яе калёніі. Такім краем зьяўляецца якраз Гішпанія, валадаючая часткай Міжземнага Мора, гэтага галоўнага шляху Англіі ў яе азіяцкія калёніі, як Індыя і др.

Зацікаўленасьць Англіі гэным шляхам асабліва ўзрасла ў часе і пасьля італьянска-абісынскай вайны, калі Італія сваімі пасьпехамі не на жарты паказала, што гэны шлях у Індыю можа быць адабраны ад Англіі.

Ня менш за Англію зацікаўлена гішпанскай вайной і суседняя з Гішпаніяй—Францыя як з боку чыста гаспадарскага, так і палітычнага. У Гішпаніі знаходзіцца вельмі шмат францускіх капіталаў, укладзеных у розныя прамысловыя прадпрыемствы, і таму для Францыі важна, каб у Гішпаніі як найхутчэй вярнуўся парадак. Ізно-ж з прычыны суседзтва той ці іншы унутраны лад у Гішпаніі будзе мець пэўны ўплыв і на унутранае жыцьцё Францыі.

Італія з Нямеччынай таксама вельмі зацікаўлены тым, як і чым кончыцца хатняя вайна ў Гішпаніі, бо-ж ад гэтага будзе залежыць магчымасьць уплываў на Гішпанію і эканамічна і палітычна. З перамогай паўстанцаў у Гішпаніі да ўлады дойдуць антыбальшавіцкія партыі, што ў першую чаргу ўзмоцніць антыкамуністычны фронт у Эўропе, прадстаўнікамі якога зьяўляюцца Нямеччына і апошнім часам Італія, аб чым сьведчаць нарады, якія адбыліся гэтымі днямі ў Бэрліне ў часе прыезду туды італьянскага міністра замежных спраў гр. Чыяно.

У часе гэных нарадаў дайшло да паразуменьня ў справе адносінаў да Саветаў. Як Нямеччына, так і Італія будуць змагацца з савецкімі ўплывамі ў Гішпаніі, дзеля чаго магчыма абедзьве дзяржавы прызнаюць урад паўстанцаў на чале з генэралам Франко заraз-жа па здабыцьці паўстанцамі Мандрыду. Адначасна і Нямеччына і Італія спрабуюць не дапусьціць Саветаў да ўчасьця ў заходня-эўрапэйскім дагаворы аб бясьпечнасьці, ды наагул старацца „выкінуць" Саветы з Заходняй Эўропы.

Што праўда бэрлінская нарада не дала нічога новага, а толькі пацьвердзіла ўсё тое, што наглядалася ўжо і раней, бо-ж як Нямеччына, так і Італія ад самага пачатку хатняе вайны ў Гішпаніі падтрымоўваюць паўстанцаў.

Таксама і Саветы ад пачатку вайны падтрымоўваюць змагаючыся з паўстанцамі гішпанскі ўрад.

Праўда прыхільнікі як аднэй, так і другой з ваюючых старон хацелі перашкодзіць у дапамозе сваім праціўнікам, і з гэтай мэтай быў створаны Камітэт няўмешаваньня ў гішпанскую вайну, які адбываў паседжаньні ў Лёндане. Аднак існаваньне гэнага Камітэту ня спыніла дапамогаў абодвум ваюючым бакам, ажно ўрэшце ў гэтых днях Саветы злажылі пратэст у гэны Камітэт супроць умешваньня ў гішпанскую вайну некаторых дзяржаў, заяўляючы, што Саветы будуць памагаць афіцыяльна гішпанскаму ўраду. Газэты пішуць, што гэтымі днямі ў Маскве пастаноўлена выслаць у помач гішпанскаму ўраду ваенныя прыпасы, як самалёты, гарматы і інш.

Зразумела, што такі шаг Саветаў спаткаецца з процідзеяньнем з боку старонькаў гішпанскіх паўстанцаў, а іменна з боку Нямеччыны, Італіі ды Португаліі, якія таксама пачнуць памагаць паўстанцам, а гэта яшчэ больш павялічыць тую напружанасьць, якая існуе між старонікамі ваюючых у Гішпаніі старон і можа выклікаць новую эўрапэйскую вайну.

Заблутанасьць міжнароднага палажэньня яшчэ пабольшала пасьля заявы бэльгійскага караля, з якое відаць, што Францыя, цяперашняя саюзьніца Саветаў, пачынае губляць сваіх дасюлешніх саюзьнікаў, узмацняючы гэтым усё больш пазыцыю Нямеччыны.

Як бачым, над Эўропай зноў у сувязі з гішпанскай вайной зьбіраюцца страшныя ваенныя хмары і могуць прынесьці з сабой жудасную ваенную завіруху.

## Сярод кнігаў і прэсы.

Ужо два разы,—раз у 1925 годзе і другі у 1935 годзе, — езьдзіў у Саветы Сір Вальтэр Сітрын, генэральны сэкрэтар брытыйскіх работніцкіх сындыкатаў (Trade Unions) і старшыня міжнароднага соцыялістычнага саюзу работніцкіх сындыкатаў, каб *дабіцца праўды аб адзінай пралетарскай дзяржаве*. Вынікі сваіх паездкаў Сір Сітрын, каторага бязумоўна ня можна падазраваць у сымпатыях да капіталістычнага ладу, апісаў у кніжцы: „Шукаю праўды ў Расеі" („I search for truth in Russia").

Аўтар гэтай працы не абмежваўся тым, што прыглядаўся толькі да таго, што яму было паказана, але стараўся пранікнуць туды, дзе мог пазнаёміцца з сапраўдным жыцьцём савецкага работніка. Яскрава кінулася яму ў вочы перадусім нястача памяшчэньняў. У работніцкіх бараках, ня прызначаных на паказ, бачыў аўтар бярлогі, бачыў, як на двох накрытых лахманамі ложках сьпяць людзі ў пяцёх у цесных складзіках.

„Найгоршаму ворагу не жадаў-бы, каб ён жыў у такіх месцах" — піша Сітрын. Такія ўмовы пражываньня паўтараюцца ня толькі ў малых гарадох, але і ў вялікіх, як Маскве, Баку і прамысловых асяродзішчах, як Днепрастрой... Цікавіўся такжа Сітрын справай работніцкіх платаў. Ён пераканаўся, што ў Маскве работнік зарабляе ад 105 — 312 рублёў месячна (каля 30—90 злотых), выкваліфікаваны трохі болей, а дырэктары фабрыкаў — каля 2 тысячаў рубл. Дзеля таго, што, як цьвердзіць Сітрын, рубель прадстаўляе сабой вартасьць каля 3 пэнсаў (30 гр. польскіх), а зімовая вопратка каштуе ад 225—350 рубл., жалезная ложка—125 рубл., а кілё валовага мяса ад 7—12 руб., лёгка сабе ўявіць, якая пануе сярод працоўных масаў бяда. Пры гэтым трэба памятаць, што заробкі паза Масквой яшчэ куды ніжэйшыя. Аправізацыя ў савецкай Расеі знаходзіцца проста ў страшным стане. Усюды, дзе быў Сітрын, можна было пабачыць вялікія хвасты людзей перад складамі з спажывецкімі прадуктамі. Страшна прадстаўляецца і апека над дзіцём. Калі ўзяць пад увагу толькі гарады, у якіх пражывае каля 22 міль. ёнаў людзей і прыняць. што ў лічбе гэтай ёсьць каля 10% дзяцей, якія патрабуюць апекі, дык трэба было-б мець у гарадох каля 2.200 тысячаў месцаў у прытулках. Тым. часам, два гады таму назад, прытулкі маглі прыняць толькі 250 тысячаў дзяцей. Работнікі ў фабрыках знаходзяцца пад сталым надзорам, як арыштанты. Надзор гэны пашыраны нават і на прыватнае жыцьцё. „Як-жа можам мы ганіць дыктатуру нашых фашыстоўскіх праціўнікаў—пытае Сітрын —, і адначасна дазваляць на дыктатуру камуністаў? У Расеі зьнішчана ўсякая палітычная апозыцыя. Свабода слова, прэсы і сумленьня прыслугоўвае толькі камуністам..."

А вось як апісывае Сітрын выгляд савецкага работніка: „Вяртаючыся дамоў, я меў нагоду бачыць работнікаў, якія капаюць канал Масква-Волга. Большасьць не працавала, бо якраз быў дзень адпачынку. Работнікі, каторых я бачыў, мелі выгляд недаядаючых людзей, былі вельмі бедна адзетымі, бруднымі і абросшымі. Вобратка іх была падзёртай, з ботаў капала балота... Мяне запэўнялі, што гэта ня былі катаржнікі, але работнікі, вольныя работнікі!"—дадае з сарказмам Сітрын.

Запярэчвае ўрэшце становуча Сітрын ілжыва праз Саветы рэклямаванаму жаданьню міра і пісе: „Як мы верым у мір, так яны ненавідзяць і пагарджаюць пацыфізмам. Іх палітыка гвалту і рэвалюцыі можа давясьці толькі да братазабойчай вайны.

І ня памыліўся Сітрын у сваіх словах, праўда якіх выявілася ў сяньняшняй Гішпаніі.

Гэта ўсё бачыў Сітрын у 1925 і 1935 гадох. Можа сяньня ў Саветах нешта зьмянілася? Дык паслухаем П. Г. Шоскеса, які нядаўна вярнуўся з Саветаў. Быў ён удзельнікам экскурсыі і цяпер друкуе свае ўражаньні з Масквы ў жыдоўскай газэце „Пятая раніцай". Трэба сьцьвердзіць, што п. Шоскес не настроены няпрыхільна да Саветаў, але адносіцца да ўсяго толькі крытычна. Ён таксама кажа, што ў Маскве побач вялізарных новых будынкаў ёсьць шмат нораў, у якіх пражываюць работніцкія сем'і. І калі пры добрым абедзе ў рэстаране вялікага (дзяржаўнага зразумела) готэлю есьць сьвежую ікру і есетровую зупу, натуе ўвагі свайго суседа пры стале, амэрыканца:

„Глядзіце! работнікі над ракой ядуць толькі чорны хлеб, — а мы тут?"...

Глядзім праз вакно і бачым групку бедна адзетых работніцаў, якія сядзяць паўколам на зямлі і дастаюць з хустачак чорны хлеб: ядуць яго паволі і запіваюць ней з бутэляк.

Адзін з савецкіх інжынераў чуецца, відаць, закраненым увагаю амэрыканца і кажа: „У нашым краі аднак, кожная з гэтых, вось там седзячых, работніцаў можа стацца інжынерам і есьці вячэру разам з намі".

Амэрыканец ня вытрымоўвае: „У нас аднак,—кажа ён, — у Амэрыцэ работнік на вячэру мае сандвічы і сьвежыя бананы, так што між яго ежай і ежай яго шэфа няма гэткай вялікай розьніцы, як у вас, у краі, дзе — як цьвердзіце — зьнесены ўсе соцыяльныя клясы".

Інжынеру ежа стае косьцяй у горле. Ён паклікаецца на вялікую прамову Сталіна, якая разьбіла

ўсе тэорыі аб „ураўнілаўцы“ (аднолькавыя ўмовы жыцьця для ўсіх); указывае ён (Сталін), што людзі здальнейшыя і больш карысныя для дзяржавы, павінны лепей жыць і быць лепш аплачваныя.

Амэрыканец пярэчыць гэтаму. Тымчасам,—піша далей Шоскес,—гляджу праз вакно і бачу, як там у нізе, у сьвятле электрычных лямпаў, кабеты завязваюць астаўшыяся рэшткі хлеба ў хустачкі, аклададуць на бок, ізноў прыймаюцца за працу, ізноў цягнуць ланцугі бэтанярак...

Затое за год або за два Сталін абвесьціць з трыумфам, што канал Масква-Волга, над каторым працуюць апісаныя Шоскесам работніцы, перавысіў усе падобныя работы ў „згнiўшай Эўропе“... Пры будове каналу Балтыйскае—Белае Мора памёрла 100 тысячаў ад голаду, марозу, біцьця і хваробаў. Колькі згіне іх пры будове новага каналу?

Нават камсамольцы, адзіная сярод насельніцтва прасавецкая група, абураецца ўжо на жахлівыя ўмовы жыцьця ў сваёй дзяржаве. На апошнім—у верасьні месяцы—конгрэсе камсамольцаў, адзін з дэлегатаў, Лук'янов, заявіў:

„Моладзь нашая жыве зімой у дрэнных, зьбітых з дошак, кепска атынкаваных і слаба апальваных бараках. Трасучыся ад холаду, моладзь гэная прыпамінае сабе хатняе цяпло, якога яе пазбавілі і сумуе па мінулым жыцьці, па сэрдэчнай атмосфэры сямейнага дому. З прыкрасьцяй моладзь сьцьвярджае, што ўмовы яе жыцьця ў Саветах складаюцца з кожным днём усё горэй.

Што робім мы, правадыры? Замест таго, каб направіць папсутыя страхі баракаў, праз каторыя на галавы моладзі льецца вада і падае сьнег, замест уставіць у вокны баракаў цэлыя шыбы і зрабіць жыцьцё гэнай моладзі калі не шчасьлівым, дык прынамся магчымым, мы закідываем яе адозвамі, заклікаючымі да абароны камуністычнага ладу“.

Камсамольцы — ёсьць іх каля 8 мільёнаў—ня маюць паняцьця аб Эўропе, бо-ж іх не дапушчаюць да ніякіх аб'ектыўных вестак. Ім пераканалі, што Саветы зьяўляюцца самым шчасьлівым і заможным краем на сьвеце. Аднак, як бачым, ужо і сярод іх пашыраецца крытыцызм.

Настроі гэтыя не зьяўляюцца фікцыяй. Разумее іх добра Сталін, разумеюць іх і кіраўнікі камінтэрну. Яны і зьяўляюцца прычынай зьмены формаў савецкага жыцьця, якую, зьмену, можна наглядаць да даўшэйшага ўжо часу. Нядоўга, а ў Саветах фактычна з камунізму нічога не астанецца.

Як толькі аднесьціся да тых людзей, якія ў імя ўтапійнага экспэрымэнту прынесьлі столькі людзкіх ахвяраў у Расеі і пераканаліся ў яго нярэальнасьці, а адначасна пашыраюць тую,ж ідэю ў іншых дзяржавах усяго сьвету?

Насоўваецца проста думка, што ўсе гэтыя людзі з камінтэрну зьяўляюцца „клікай“ міжнародных спэкулянтаў, якая праводзіць у жыцьцё свае эгоістычныя мэты коштам нядолі мільёнаў работнікаў і сялян. Камуністы доўгі час зачмучвалі галовы эўрапэйскіх дзяржаваў, але, відаць, прыклад жудасных падзеяў у Гішпаніі паслужыць шмат для каго халодным, ацьвярозваючым тушам.

*Мір.*

## Масавыя арышты ў сав. Беларусі.

Паводле вестак, дайшоўшых з Масквы ў Бэрлін, у першай палавіне кастрычніка сёл. году, адбыліся масавыя арышты камуністых у савецкай Беларусі. Арыштованых вінавацяць у „троцкізме“, меншавізме, контр-рэвалюцыйнасьці і „буржуазным нацыяналізме“.

Перш за ўсё разгромлена жыдоўская сэкцыя (*евсекцыя*) саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Большасьць сяброў гэтае сэкцыі абвінавачваецца ў троцкізме. Некаторыя з арыштаваных займалі досыць высокія становішчы, як напр. арыштованы агентамі народнага камісарыяту ўнутраных справаў пісьменьнік Дунец быў рэдактарам літэрацкае газэты „Літэратура і Мастацтва“, Юдэльсон быў сэкрэтаром двух журналаў — „Октябрь“ і „Штэрн“. Некаторыя з арыштованых сяброў „евсекцыі“ абвінавачваюцца ў тым, што, спачуваючы „бундызму“, яны падтрымлівалі сувязь з „капіталістычным Захадам“.

Адначасна разгромлена і польская сэкцыя саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Адзін з сяброў гэтае сэкцыі нейкі Краінскі абвінавачваецца ў тым, што ў кнізе сваёй „Бура ў казармах“ ён ідэалізуе польскую армію і вітае „новую надыходзячую сусьветную вайну“. Гэткія-ж самыя абвінавачаньні высунуты і проці пісьменьнікаў Квапінскага ды Зарэмбоўскага, а таксама проці камсамольцаў: Кавальскага, Сьлівінскага, РамаНоўскай і інш.

Пасьля арыштаў генэральны сэкрэтар цэнтральнага камітэту беларускае камуністычнае партыі Гікала апублікаваў у маскоўскай „Праўдзе“ артыкул, у якім, паміж іншым, піша, што расстрэлены ў ліку 16-ёх троцкістых Ольбэрг у свой час прабываў у Менску, дзе падтрымліваў цесную сувязь з адным супрацоўнікам менскае газэты „Звезда“, займаўшым кіраўнічы пост. Найбольш лік троцкістых выкрыты ў *Белгізе* (гэтак у бальшавікоў завецца беларускае дзяржаўнае выдавецтва). Шмат каму з іх Гікала закідае зносіны з нямецкаю контр-разьведкаю.

## Павялічэньне цэнаў сельска-гаспадарскіх прадуктаў.

Шмат якія польскія газэты, зьвяртаючы ўвагу на дарагоўлю рэчаў першай неабходнасьці і падвышэньне цэнаў сельска-гаспадарчых прадуктаў, выказваюць пагляд, што, хоць павялічэньне цэнаў уводзіць некаторую дэзарганізацыю ў гандаль ды б'е па кішані масавага спажыўца, аднак-жа, разам з гэтым, сьведчыць таксама і аб тым, што крызыс ідзе да зьменшаньня.

21-га кастрычніка г. г. варшаўская збажовая біржа адзначыла гэткія цэны—за 100 кілёграмаў: пшаніца 27.75—28.75 зл., жыта 19—19.25 зл., выважаны авёс 17.75—18.25 зл., ячмень 26.75—27.75 зл., гарох 20—21 зл.

Лічбы гэтыя азначаюць не адну толькі дарагоўлю, ад якой церпіць спажывец, але і тое, што цэны на збожжа і іншыя сельска-гаспадарчыя прадукты падыходзяць да таго роўня, калі сельска-гаспадарчае вытворчасьць робіцца ізноў рэнтоўнаю.

На гэта павінны зьвярнуць увагу ўсе жыхары Польскае Рэспублікі; калі цана пшаніцы і жыта блізка падыйшла да таго роўня, які робіць сельска-гаспадарчую працу прыбытковаю, дык палажэньне землярабаў — або вялізарнае большасьці ўсіх жыхароў Рэспублікі—ў хуткім часе палепшыцца. А калі ўзяць пад увагу, што ў Польшчы, на 32 мільёны жыхароў, ёсьць 27 мільёнаў землярабаў (лічачы малых і старых кожнае сям'і), дык прыйдзём да выразнага вываду, што ў хуткім часе павінна палепшаць і агульнае гаспадарчае палажэньне ўсяе Рэспублікі. Бо селянін-жа зьяўляецца галоўным спажыўцом на ўнутраным рынку. Калі пабольшае яго здольнасьць купляньня, дык больш рух будзе і ўва ўсім гандлі краю. Дабрабыт гораду якнайцясьней зьвязаны з дабрабытам вёскі. Крызысны час змусіў сельскіх жыхароў звузіць свае патрэбы да найменшай меры і адмовіцца ад вельмі шмат якіх рэчаў першай неабходнасьці. З палепшаньнем свайго матэр'яльнага палажэньня селянін пачне пушчаць усе свае „лішнія“ грошы на тое, каб набыць вопратку, абутак, землярабскае прыладзьдзе, штучныя гнаі і г. д. Ізноў яму спатрэбіцца работа каморнікаў (землямераў), аграномаў, будаўнікоў, сталяроў, адвакатаў, таму што ён будзе мець чым аплаціць іхнюю працу. Ізноў паднімецца гандлёвы рух у гарадох і мястэчках. Усё гэта паможа зьменшаньню безрабоцьця.

Найбліжэйшая будучыня пакажа, ці ўсе гэтыя надзеі апраўдаюцца.

На шпальтах „Gazety Handlowej“ віцэ-старшыня львоўскае сельска-гаспадарчае палаты сэнатар Луцкі заяўляе таксама, што павялічэньне цэнаў на сельска-гаспадарчыя прадукты за апошні час ня трэба разглядаць, як нешта нязвычайнае або шкоднае гаспадарчаму жыцьцю краю.

— Цяперашняе падвышэньне цэнаў,—кажа, паміж іншым, сэнатар Луцкі,—гэта толькі частковая компэнсацыя тых стратаў, якія мела сельская гаспадарка ў часе катастрофічнага спаданьня цэнаў.

## Палёгкі для землярабаў прамыслоўцам вочы колюць.

Ад пэўнага часу Урад пачаў моцна клапаціцца аб землярабскіх справах, уважаючы, што палепшаньне матэр'яльнага палажэньня землярабаў аўтаматычна выкліча гаспадарчае палепшаньне і цэлага Краю. З гэтай прычыны Урад увёў выважныя прэміі на землярабскія прадукты, гэта знача, што купцы, якія вывозяць пэўныя землярабскія прадукты заграніцу, пачалі атрымоўваць ад дзяржаўнага скарбу адпаведную грашовую прыплату за вывезены тавар. Такая гаспадарчая палітыка праводзіцца ў многіх аграрных краінах і звычайна спрычыняецца як да павялічэньня вывазу заграніцу, так і да падняцьця цэнаў на прэміяваныя прадукты ўнутры краю. Апрача таго, асыгнуюцца цяпер у Польшчы пэўныя сумы на мэліорацыі і камасацыю.

Ня гледзячы на тое, што ўрадовая помач землярабству, з увагі на скромны дзяржаўны бюджэт, ёсьць далёка недастатачнай, прамыслоўцы ўсё-ж такі і гэтую помач лічаць зусім лішняй. У „Codziennej Gazecie Handlowej“ усьцяж зьяўляюцца артыкулы, у якіх даводзіцца, што адзінай дарогай да гаспадарчага палепшаньня зьяўляецца пашырэньне прамысловасьці краю і то нават коштам землярабскага жыхарства. У № 197 гэтае газэты (артыкул П. Поствілла) гаворыцца, што калі дзяржава мае ўмешвацца ў гаспадарчае жыцьцё краю, то павінна дапамагаць той вытворчасьці, якая вытварае прадукты, якіх у нас не стае. Далей аўтар артыкулу кажа, што капіталы, якія знаходзяцца ў распараджэньні Дзяржавы, не павінны распарошвацца паміж рознымі галінамі спажывецкай вытворчасьці, а павінны быць ужыты для фабрыкацыі машынаў і для будовы дарог і камунікацыйных ліняў. Нарэшце аўтар вышэй успомненага артыкулу цьвердзіць, што пакуль у Польшчы, як вынік будучага ўрбаністычнага разрасту, не наступіць нястача спажыўных прадметаў, пакуль Польшча ня стане ў рад высока прамысловых дзяржаваў — датуль „каштоўныя інвэстыцыі, маючыя на мэце паднясьці прадуктыўнасьці грунту, ня будуць рэнтоўнымі выдаткамі. Значна пытаньне мэліорацыі грунтаў з публічных фондаў павінна будзе ўступіць месца заданьням, якія стаяць перад намі ў галіне мэханікі і будовы дарог“.

Як бачым, аўтар артыкулу вядзе вельмі вострую атаку супроць дзяржаўнай помачы землярабству, добра ведаючы, што арганізаваны промысел, пазбавіўшыся дзяржаўнага ўмяшаньня, вельмі лёгка здолее высмактаць і апошнія сокі з землярабаў. Што цяпер шалее гаспадарчы крызыс, што цэны на сельскія прадукты за час гэтага крызысу найболей абніжыліся і нарэшце, што вёска цяпер даслоўна не даядае, гэта прамыслоўца не абходзіць. Сёньня ўжо вуснамі міністраў сьцьверджана, што вёска пасылае ў войска заморанага голадам рэкрута. Як бачым, далейшае існаваньне такога палажэньня няўхільна пацягне за сабою дэгенэрацыю вёскі, тае вёскі, якая заўсёды была рэзэрвуарам найздаравейшага элемэнту, якая і для гарадзкіх арганізмаў давала заўсёды шмат сьвежае крыві.

Нарэшце прамыслоўцы абсалютна нічога ня думаюць і аб тым, што абяднеўшае селянства становіцца вельмі слабым рынкам збыту для іх-жа прамысловых прадуктаў.

## Лік коопэратываў у Польшчы.

Паводле дадзеных Галоўнага Статыстычнага Ураду, цяпер па ўсёй Польскай Рэспубліцы ёсьць 11.475 коопэратываў. З гэтага ліку 6.676 коопэратываў уваходзяць у польскі рэвізыйны саюз, 4.965 землярабскіх і вытворчых коопэратываў, 1.071 коопэратыў саюзу „Społem“, 256 вайсковых коопэратываў, 357 уваходзячых у склад саюзу коопэратываў і 27 прыналежных да саюзу „Hurt“, 774 коопэратывы, якія належаць да жыдоўскіх саюзаў, 3.229 крамаў належыць да украінскага і галіцка-рускага саюзу і 796—да нямецкага саюзу.

Найбольшая колькасьць—або 1.984 коопэратывы—знаходзяцца ў Львоўскім ваяводзтве. У Тарнопальскім ваяводзтве ёсьць 1.423 коопэратывы, у станіславаўскім 1.108, у пазнанскім 822, люблінскім 768 і кракаўскім 711...

Польскіх коопэратываў найбольш у люблінскім ваяводзтве—686, а жыдоўскіх найбольш у варшаўскім і беластоцкім ваяводзтвах—87. Украінскіх і галіцка-рускіх коопэратываў найбольш у львоўскім ваяводзтве, або—1.247. Нямецкіх — найбольш у Пазнаншчыне—477.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Перарасходы савецкай адміністрацыі.

„Экономическая Жизнь“ нядаўна апублікавала перадавы артыкул, у якім прабірае савецкіх адміністратараў за нарушэньне рамаў бюджэту ў некаторых рэспубліках, краях, акругох і раёнах.

За першую палову бягучага году бюджэт быў перавышаны агулам на 280 мільёнаў рублёў. Вялізарныя сумы ідуць на ўтрыманьне адміністрацыйнага апарату, а найгоршая справа, што праводзіцца эканомія ў расходах па ўтрымліваньню прытулкаў, школаў, бальніцаў і інш., абы толькі задаволіць апэтыты бальшавіцкай адміністрацыі.

Савецкі гаспадарчы офіцыёз выказвае думку, быццам гэткае палажэньне вытварылася, дзякуючы слабому кантролю мясцовых наглядных органаў.

Нядаўна зробленая рэвізія ў *Беларускай Рэспубліцы*, устанавіла вялікае перавышэньне яе бюджэту

## Як расстрэльвалі Каменева і інш.

Маскоўскі працэс г. зв. 16-цёх троцкістых у канцы жніўня месяца сёл. году паказаў, як нядаўныя „стаўпы" кастрычніцкай рэвалюцыі, бальшавікі Каменеў і Зіноўеў, мала выглядалі на герояўрэвалюцыянэраў, з якім паніжэньнем усякае чалавечае годнасьці прызнаваліся да ўсяго, у чым вінавaціў іх пракурор Вышынскі. З апісаньняў працэсу відаць было, што абвінавачаныя каюцца, дрыжаць за сваю скуру.

Як-жа непадобным было іх паводзеньне да адвагі героя францускай рэвалюцыі Дантона, каторы на пытаньне прэзэса рэвалюцыйнага трыбуналу, пра імя і месца прабываньня, горда адказваў:

— Маё імя ў Пантэоне гісторыі, месцам прабываньня майго хутка будзе нішто!

Дантон разумеў, відаць, што яго чакае. Маскоўскія бальшавікі не разумелі свайго лёсу растоптаных пятой дужэйшага. І сьмерць іх зусім была непадобнаю да сьмерці Дантона.

Парыская газэта „Journal" („Журналь") нядаўна апублікавала гутарку з чужаземцам, які ў пачатку кастрычніка месяца гэтага году прыехаў з Масквы ў Парыж. Гэты чужаземец (газэта прозьвішча яго не называе) ў Маскве быў блізкім да некаторых вельмі выдатных бальшавіцкіх вяльможаў і з іх словаў гэтак расказвае пра падробнасьці расстрэлу Каменева, Зіноўева і іншых:

*Перад казьняй.* Напярэдадні прысуду ўсе абвінавачваныя былі пераконаны, што будзе толькі ссылка. Адзін Каменеў казаў, што ён ужо на нішто надзеі ня мае. Прысуд быў прыняты спакойна. Пра асаблівыя меры, прынятыя перад абвешчаньнем прысуду, падсудныя ня ведалі. Аднак варта была ўзмоцнена, вуліцы замкнутыя для руху. Прынесеныя ў судовую салю жалезныя наручнікі не прадказвалі нічога добрага. Але нэрвовая змога была гэткая, што шмат хто тупа, бязглузда ўсьміхаўся... Яны не сумляваліся, што прыгавор будзе адменены.

Праз гадзіну прэзэс трыбуналу Уншліхт пазволіў Каменеву пабачыцца з сям'ёю. Да Каменева была дапушчана жонка (сястра Троцкага), пляменьніца і дачка. Іх зьдзівіла „маска сьмерці" на твары засуджанага. Зможаным патохшым голасам Каменеў сказаў: „Я адпраўляюся, мусі, ў вельмі далёкую дарогу. Чую сябе блага".

Пасьля казалі, што Каменеў памёр спакойна, хоць пасьля першага стрэлу быў жывым і ня згубіў прытомнасьці.

Засуджаныя правялі перадсьмяротны час у розных месцах. Часьць іх сядзела не на Лубянцы, а ў іншым месцы, на Мохавай, куды некаторым з іх сваякі прынясьлі вопратку (спадзяючыся на ссылку), часьць была памешчана на Лубянцы, на першым паверсе, адкуль ідуць вінтавыя сходы ў вартоўню і на ўнутраны падворак астрогу, іншыя — ў Цэнтрале і ў доме арышту пры Мясьніцкай часьці.

І. Сьмірнову было пазволена пабачыцца з дзядзькаю і з жонкаю. Ён быў прыгнечаны абстаноўкаю і рэзультатам працэсу, пануры і адмовіўся падпісаць просьбу аб памілаваньні.

*Казьнь.* Прыказ аб расстрэле прыйшоў а 8-ай гадзіне ўвечары, неспадзявана для падсудных і катаў. Паводле некаторых вестак, усіх засуджаных сабралі пасьля 8 ае гадзіны веч. ў Лубянскім вастрозе. Але паводле вестак, каторым чужаземец больш дае веры, расстрэл адбыўся там, дзе засуджаныя знаходзіліся ў часе атрыманьня прыказу.

Расстрэльвалі ад 11-ае гадзіны ночы да 4-ае гадзіны раніцы. У Цэнтрале казьнена было трох, паміж 11-ай гадзінаю і поўначай. Адзін з засуджаных захварэў і быў доктарам адасланы ў бальніцу на Лубянцы. З бальнічнага ложка яго перанясьлі ў трупярню і там застрэлілі...

*Каменеў* быў застрэлены першым. Ён пайшоў на казьнь пакорна. Ні супраціўленьня, ні жалабаў. Моўчкі ён выйшаў з камэры, быццам у сьне, зыйшоў па ступенях у прачкарню.

Пасьля першага стрэлу ён зьдзіўленна охнуў і ўпаў, але быў яшчэ жывы.

Лейтэнант Басюкоў, прысутнічаўшы пры казьні, гістэрычна крыкнуў: „Дабі яго!" і сам ударыў яго ботам.

Другім стрэлам у галаву Каменеў быў дабіты.

*Сьмірноў* быў адзіным з засуджаных чалавекам, які захаваў прытомнасьць і мужнасьць да канца. Калі яго вывелі з камэры і ён убачыў перад сабою аддзел чэкістых, дык зразумеў, што яго вядуць на казьнь. Зьвярнуўшыся да лейтэнанта (ў Маскве ведаюць усе прозьвішчы, але чужаземец ня мог іх запомніць), ён сказаў:

— Мы заслужылі гэта нашым нягодным паводзеньнем на судзе. На судзе я трымаўся нягодна, але хачу памерці, як рэвалюцыянэр.

Ён папрасіў паперы. Яму далі вялікі шэры аркуш і хімічны алавік. Але, як толькі ён напісаў першыя словы: „Таварыш Сталін!" дык раптам лейтэнант адабраў паперу і падраў яе.

Сьмірноў, сьледам за Каменевым, быў заведзены ў прачкарню ніжняга паверху і там застрэлены.

Усяго ў прачкарні (а не на ўнутраным падворку ОГПУ, як гэта казалі) было казьнена чатыры чалавекі. Засуджанага ўводзілі ў прачкарню, дзе каля дзьвераў была пастаўлена шырма. З-за шырмы выходзіў незаметна чэкісты і страляў з Нагану ў патыліцу.

Сьмерць *Зіноўева.* Ён сядзеў у паадзінчай камэры на першым паверсе вастрожнага будынку на Лубянцы. Падпісаўшыся першым на прашэньні аб памілаваньні, ён заснуў на вастрожным ложку. Ня гледзячы на душную ноч, яго трасло, як у трасцы. Ён спаў у ваўняных шкарпетках і цёплай фуфайцы. А 1-ай гадзіне ўночы яго збудзілі. Зьяўленьне аддзелу чэкістых уночы страсянула яго. Зіноўеў устаў у адным порці і дрыжаў, бязглузда гледзячы навокал. Да яго зьвярнуўся старшы:

— Зіноўеў, зьбірайцеся. Вас прыказана перавясьці ў іншае месца.

Бяз крывінкі на твары Зіноўеў моўчкі апусьціўся на ложак.

— Апранайцеся!

Зіноўеў лёг.

Адзін з канваіраў пачаў сілаю нацягваць на яго боты. Зіноўеў не варушыўся, але пот цёк градам па яго твары. Другі канваір засунуў пад яго руку і пасадзіў яго на ложку. З бязглуздым мармытаньнем Зіноўеў пачаў сударгава рваць валасы на віскох. Можна было падумаць, што ён звар'яцеў.

— Хадзем!—сказаў канваір.

Зіноўеў махаў галавою. Адзін з чэкістых выйшаў з камэры, прынёс прыгаршчы вады і хлюснуў яму ў твар. Тады ён апрытомнеў і ўстаў.

— Вазьмеце рэчы!

Зіноўеў пачаў астаўпела зьбіраць рэчы. Цераз паўмінуты яго вывелі з камэры. Каля дзьвярэй чакаў узвод з 8-ёх чэкістых. Тут Зіноўеў зразумеў, што чакае яго. Ногі ў яго задрыжэлі, ён ледзь ня ўпаў. Яго павялі пад рукі. Ён хліпаў, адбіваўся, крычаў.

У канцы калідору з ім здарылася запраўдная гістэрыка. Начальнік канвою лейтэнант Евангулаў крыкнуў: „Адчыні камэру!" Чэкістыя пасьпешна адчынілі дзьверы ў найбліжэйшую камэру. Зіноўева ўпіхнулі ў дзьверы...

*Ці ўсіх казьнілі?* Казьнілі, паводле глыбокага пераканаўньня расказчыка, ня ўсіх засуджаных. Дробных людзей, адыграўшых ролю правакатараў, як быццам пашкадавалі. Дакладна ведама аб расстрэле 11-ёх чалавек. А што датычыць 5-ёх, дык сваякі (дзьве ўдавы) ня могуць дабіцца пасьведчаньня аб сьмерці. У братоў Лур'е ляжаць грошы ў адным з нямецкіх банкаў. Сваякі ня могуць атрымаць іх, бо няма пасьведчаньня аб сьмерці.. Шэсьць трупаў здалі ў крэматоры. Які лёс рэшты — невядома.

*Прычына працэсу.* Чужаземец ня верыць чуткам аб замаху на Сталіна, нібыто робленым у пачатку жніўня месяца ў Маскве, хоць і дапушчае магчымасьць існаваньня тэрорыстых унутры камуністычнае партыі. Прычыны працэсу, паводле яго дадзеных, былі іншыя. Троцкістаўская опозыцыя запраўды моцна разьвівалася ў СССР, захапляючы вайсковасьць, і пастаноўлена было зрабіць з гэтым канец прыкладам жорсткае крывавасьці.

Чужаземец закончыў расказ гэткаю ўвагаю:

— Камандзер кіеўскага ваеннага вокругу Якір, будучы ў Парыжы, вытлумачыў генэралу Гамэлену, што маскоўскі працэс *пастаўлены быў на трэбаваньне арміі.* Армія дамагалася бязьлітаснага зьніштажэньня опозыцыі, таму што, пралазячы ў армію, гэткая опозыцыя аслабляе абарону краю. Гэткую погаласку чуў я і ў Маскве...

## Нізкі ровень даходаў жыхароў Польшчы.

Міністэрствам Скарбу апублікована статыстыка, якая ілюструе матар'яльнае палажэньне жыхароў Польскае Рэспублікі ў сэнсе даходу, атрымліванага рознымі катэгорыямі асобаў. Статыстыка гэтая абыймае сабою толькі верхнія слаі жыхароў, якія падлягаюць абкладаньню падаткамі ад даходу. Як ведама, падатак ад даходу плаціцца ня ўсімі, а толькі меншасьцю жыхароў, катораяатрымлівае заўсёдны даход (напр. пэнсію)—ня меншы, як 1.500 злотых у год; рэшта жыхароў, з заработкам меншым, не абыймаецца падобнаю статыстыкаю.

З апублікованых лічбаў відаць, што гэткіх асобаў, з сякімі-такімі людзкімі заработкамі, ёсьць вельмі мала. Каля палавіны (50 процантаў) усіх, хто плаціць падатак ад даходу, зарабляюць у месяц менш як 217 злотых. Больш за 217 злотых у месяц атрымліваюць у Польшчы толькі каля 220 тысяч асобаў, а добры заработак — або больш як 1.000 злотых у месяц—атрымліваюць у Польшчы толькі 36.185 чалавек.

Шматмільённая маса жыхароў, паводле свайго заработку, стаіць ніжэй за мінімальны ровень, г. зн. складаецца з людзей, каторыя зарабляюць менш як 1.500 злотых у год. Можна напэўна дапусьціць, што для вялізарнай большасьці сялян гэты ровень будзе шмат ніжэйшы.

Калі ўзяць пад увагу, што ўсіх жыхароў у Польскай Рэспубліцы ёсьць цяпер каля 34 мільёнаў душ, дык прыведзеныя вышэй лічбы трэба лічыць вельмі нязначнымі. Можа ў запраўднасьці яны ёсьць крыху большымі, бо афіцыяльная падатковая статыстыка ня можа ахапіць усіх відаў даходу і часьць іх пад абкладаньне падаткам не пападае. Аднак выпадковыя даходы, якія ў пражыўным мінімуме кожнае асобнае сям'і галоўнае ролі граць ня могуць, усё-ж такі мала ў чым зьмяняць агульны абраз, даваны афіцыяльнаю статыстыкай.

Офіцыяльныя лічбы сьведчаць выразна, што вялізарная большасьць жыхароў Польшчы жыве бедна. Толькі 220 тысяч сем'яў маюць бюджэты большыя, як 217 злотых у месяц. Сем'і гэтыя, узятыя разам, напэўна не складаюць нават і 1 мільёна душ, бо ведама, што больш заможныя людзі заўсёды стараюцца абмежаваць лік дзяцей. Выходзіць, што больш як 33 мільёны рэшты жыхароў Польшчы могуць расходаваць ня больш, як 217 злотых у месяц на сям'ю, а ў запраўднасьці куды менш. Бо ў Варшаве, напр., больш як тры чэцьверці жыхароў зарабляюць у месяц менш як 100 злотых.

Пры высокім штогодным прыросьце жыхароў і няўхільнай патрэбе падняцьця абароназдольнасьці дзяржавы, кіраўнічым органам дзяржаўнай гаспадаркі прыходзіцца вясьці палітыку вельмі вострае ашчаднасьці, абмяжоўваючы расходы да мінімальна магчымых граніц.

## Ачышчаньне камяністых палёў.

Міністар унутраных справаў разаслаў ваяводам абежнік, якім загадваецца наглядаць за тым, каб з камяністых палёў зьбіраліся камяньні і складаліся ў купы ўдоўж дарог і межаў.

Абежнік прызнае вельмі пажаданым ладзіць конкурсы з прэміямі для земляробаў, якія найлепш ачысьцяць свае палі ад каменьняў.

## Рашучы паварот вонкавай палітыкі Масквы.

Як падае ангельская газэта „Ірвін Ньюс", апошнія здарэньні міжнароднай палітыкі выклікалі рашучы паварот у кірунку вонкавай палітыкі Масквы. Да гэтага часу СССР актыўна праводзіла ідэю ўтварэньня агульнай коллэктыўнай бясьпечнасьці. Праводзячы гэту ідэю Ліцьвінаў казаў, што такім шляхам можна дабіцца супрацоўніцтва СССР з эўрапэйскімі дзяржавамі, што прывядзе да ізаляцыі Нямеччыны, а такая ізаляцыя вельмі выгадная для СССР.

Палітыка Ліцьвінава, аднак, пацярпела фіаско і цяпер палажэньне Ліцьвінава ў крэмлёўскіх сфэрах значна аслабела.

У сувязі з гэтым СССР мае намер перайсьці ад сыстэмы колектыўнай бясьпечнасьці да сыстэмы ізаляцыі сваей вонкавай палітыкі, г. з. не зьвязываць яе з другімі дзяржавамі.

## Гэрынг павінен у 4 гады стварыць незалежную гаспадарчую Нямеччыну.

У сувязі з удзяленьнем ген. Гэрынгу неаграніченых паўнамоцтваў дзеля правядзеньня ў жыцьцё гаспадарчай 4-леткі, „Фэльк. Бэобахт." піша: „Даручаючы гэтае важнае заданьне Гэрынгу, рэйхсканцлер паднёс гэтага энэргічнага дзеяча у вачох нац.-соц. руху і зрабіў яго самай выдатнай асобай 3-га Рэйху". Гэрынгу дадзены прыказ — праз 4 гады Нямеччына павінна быць зусім незалежная ад заграніцы ў дастаўцы ўсіх тых сырцоў, каторых, хоць якім небудзь спосабам можна зрабіць у самой Нямеччыне, дзякуючы нямецкім здольнасьцям, нямецкай хіміі і нямецкай прамысловасьці.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— *Сход Беларускага Дабрадзейна Т-ва.* У нядзелю, 25 кастрычніка г. г. адбыўся гадавы сход сяброў Бел. Дабрадз. Т-ва, на якім выбраны новы Урад і Рэвізыйная Камісія. У Урад ўвайшлі — маг. К. Глінскі — старшыня, Я. Шнаркевіч — І віцэ-старшыня, М. Мінкевіч — ІІ віцэ-старшыня, А. Мільлер — скарбнік, З. Рагулянка — сэкрэтар.

У Рэвізыйную Камісію ўвайшлі — Р. Астроўскі, Г. Богдановіч і Л. Галяк.

— Як даведваемся, у хуткім часе мае выйсьці з друку нацыянальна праваслаўна-рэлігійная часопісь „Сьветач Беларусі“.

— *Беларускія падручнікі для пачаткавых школ.* Як нас інфармуюць, у хуткім часе пачнецца друкаваньне беларускай чытанкі на 3-ці год навукі ў пачаткавых школах—беларускіх і польска-беларускіх. Гэная кніжка ўкладзена камісіяй беларускіх вучыцялёў яшчэ ў першай палове 1935 году, але Дзяржаўнае Выдавецтва толькі цяпер прыступіла да друкаваньня гэнае кніжкі.

Адначасна з ініцыятывы і пры дапамозе школьных уладаў апрацоўваецца камісіяй беларускіх вучыцялёў і літэратараў беларуская чытанка на 4-й год навукі ў пачаткавых школах.

# Гаспадарчы аддзел.

## Перахоўваньне гною і гнаеньне палёў.

(Глядз. „Родны Край“ № 13).

Пры летняй вывазцы нельга пакідаць гной у вялікіх кучах, бо пры вялікім доступе паветра і сонца ён хутка гніець і зьмяншаецца ў абыйме, пры чым уцякаюць у паветра цэнныя, пажыўныя субстанцыі; такім чынам пажыўнасьць гною для расьлінаў паніжаецца — чым меншая куча, тым больш бывае стратаў. Калі здараецца дождж, то ён вымывае пажыўныя субстанцыі з гною, якія зьбіраюцца пад кучай. На такіх тучных мясцох збожжа вырастае вялікае, доўга ня спее, у той час, як у іншых мясцох збожжа ўсюды сьпелае, што толькі перашкаджае ў працы.

Калі гной зараз-жа пасьля вывазкі раскідываецца па полі, але гаспадар па той ці іншай прычыне ня можа заараць, то ў гэткіх выпадках страты бываюць менш значныя. Зразумела, і тут з гною будуць выдзяляцца пажыўныя субстанцыі, але яны раўнамерна будуць паглынацца зямлёй.

Лепш пасьля вывазкі гною адразу заараць поле, бо калі гной ляжыць на паверхні зямлі, дык зьмяншаецца ў абыйме і мала прыносіць карысьці. Пры гніцьці гною выдзяляюцца некаторыя лётныя субстанцыі, як прыкладам, амоньяк; апрача амоньяку выдзяляюцца яшчэ і іншыя лётныя субстанцыі, якія ў сваю чаргу дзеюць на часткі грунту, пры чым з гэтых частак расьліны могуць узяць больш ежы для карней.

Чым большая колькасьць гною ў зямлі, тым больш лёгкадаступнага пожыву для расьлінаў.

Ці глыбака трэба заворываць гной? Дзеля таго, каб даходзіла паветра і каб гной раўнамерна і хутка перагніваў, ня трэба яго глыбака заворываць, бо ён не перапрэе. Таксама ня можна заворываць гной мелка, бо ён хутка высыхае. Глыбіня заворываньня залежыць увялікай меры ад грунту: на цяжкіх грунтох, праз якія дрэнна праходзіць паветра, трэба заворываць мелка, на грунтох-жа лёгкіх—глыбей.

*Agricola.*

## Ці патрэбны нам мясныя заводы?

У нумары 37-38 „Tygodnika Rolniczego“ зьявіўся цікавы для нас артыкул пад загалоўкам: „O potrzebie rozbudowy przemysłu mięsnego na ziemiach wschodnich“. Як відаць з самога загалоўку, у артыкуле ідзе гутарка аб упрамысл оўленьні нашага краю разбудовай мяснога промыслу. Справа гэтая ёсьць вельмі важная, бо адсутнасьць у нас якраз такога промыслу, які-б перарабляў сельскагаспадарчыя сырцы, і ёсьць аднэю з галоўных прычын адсталасьці вёскі. Разьвіцьцё мяснога промыслу на нашых землях аўтар лічыць вельмі патрэбным і зусім магчымым, асабліва цяпер пасьля заключэньня гандлёвае ўмовы паміж Польшчаю і Нямеччынай — 4-га лістапада 1935 г. Магчымасьць гэтага разьвіцьця палягае на тым, што з уваходам у сілу гэтае ўмовы з нашага краю пачаўся досыць значны збыт сьвіней у Нямеччыну. Пакуль вышэй успомненае польска-нямецкае гандлёвае ўмовы ня было, для збыту нашых сьвіней быў толькі адзіны ўнутраны рынак. Гэта тлумачыцца тым, што ў нас гадуюцца сьвіньні большае вагі, пераважна на сала, а такі тавар раней заграніцу амаль зусім ня ішоў, пакуль для яго не адчыніліся дзьверы ў Нямеччыну.

У Польшчы разьвіцьцю мяснога промыслу значна памагае Дзяржава. За вывезены заграніцу перароблены ў краі мясны тавар (пр. шынкі, бэконы і т. п.) дзяржаўны скарб плаціць прэміі. Прэміі гэтыя выплачвае якраз т. зв. экспартовы фонд, які ў сваю чаргу зьбірае сродкі з спэцыяльных аблажэньняў, якія бяруцца пры вывазе жывёлы заграніцу проста штукамі.

Пакуль у нас прадаваліся сьвіньні на мясцовым рынку, а ня ішлі заграніцу, дык ад гэтай прадажы, зразумела, нічога не магло паступіць у экспартовы фонд. Аднак з мамэнтам, калі сьвіньні ад нас пайшлі ў Нямеччыну, значныя грашовыя сродкі паплылі і ад нас у гэты фонд. Адначасна трэба зазначыць, што мяснога промыслу, які-б даваў прадукт на заграмічны рынак, у нас ня было, а знача нашыя грошы за гэты год пайшлі на разбудову мяснога промыслу ў заходняй і паўдзённай частках Польшчы, дзе ён, мясны промысел, ад даўжэйшага часу існуе. Паводле падлічэньняў аўтара т. зв. „Усходнія Крэсы“ выплацілі ўжо такім чынам у экспартовы фонд 300.000 злотых. Трэба яшчэ падчыркнуць, што ў гэтую суму не ўваходзяць аплаты за тыя сьвіньні, якія пайшлі з нашага краю на дапаўненьне кантынгэнтаў іншых ваяводзтваў. Вось-жа, цыфра гэтая павінна была-б быць значна большай. Аўтар зусім слушна лічыць, што тыя грошы, якія бяруцца экспартовым фондам пры вывазе сьвіней з нашага краю, павінны ісьці на разбудову мяснога промыслу ў нашым-жа краі. З асаблівай сымпатыяй аўтар адносіцца да занятага ў гэтай справе становішча Віленскай Земляробскай Палатай, якая ўнясла праэкт да Міністэрства Земляробства і Земляробскіх Рэформаў аб пераданьні ёй тых сумаў, якія былі награмаджаны, дзякуючы экспарту сьвіней з вокругу Віленскай Земл. Палаты; пры чым гэтыя сумы Палата мае намер ужыць на інвэстыцыі, зьвязаныя з мясным промыслам.

Высоўваючы свае праэкты і пажаданьні, аўтар артыкулу яшчэ паказывае дзе ўжо ў нашым краі закладаюцца пункты мясное перапобкі, або дзе маюць быць заложаны. Аказваецца, што ў Паставах і Глыбокім ужо пачата будова рэзьняў і халадзільняў, якія маюць адказываць усім вымаганьням экспарту. Пушчана ў ход мясны завод у Баранавічах. Ідуць яшчэ перагаворы, каб пункт мясное пераробкі зрабіць таксама і ў Новай-Вялейцы. Толькі адна Вільня паводле аўтара страшна зянядбала пад гэтым паглядам сваю павіннасьць і аб упарадкаваньні мясное справы нават і ня думае.

Апрача Вільні, аўтар знаходзіць такжа патрэбным адчыненьне мясных заводаў у Лідзе і Слоніме. Прыдаючы вялікае значэньне разьвіцьцю мяснога промыслу на т. зв. „Усходніх Крэсах“, аўтар лічыць яшчэ неабходнай дзяржаўную дапамогу для гэтай справы. „Дапамога гэта, — кажа аўтар, — можа быць удзелена ў форме беспасрэдняга адчыненьня крэдыту на інвэстыцыйныя мэты, а так-жа ў форме пасрэдняй, шляхам абніжэньня чыгуначнага тарыфу для перавозкі жывое і забітае жывёлы на нашым абшары і абніжэньня аплатаў з прычыны ўбою жывёлы тым прамыслоўцам, якія будуць рабіць інвэстыцыі на абшары ваяводзтваў паўночна-ўсходніх“.

Нарэшце ў артыкуле зварочваецца ўвага на тое, што тэрмін гандлёвае ўмовы з Нямеччынай з дня 4. XI. 1935 г. канчаецца сёлета ў верасьні, а знача мае быць новая канфэрэнцыя, каб гэтую ўмову прадоўжыць. З гэтае нагоды аўтар выказвае пажаданьне, каб на будучы год у першую чаргу быў падвышаны кантынгэнт на сьвіней, гэта знача, каб у наступным годзе можна было сьвіней вывязьці ў Нямеччыну яшчэ болей, чым у сёлетнім. Як рэкомпэнсату, аўтар лічыць цалком магчымым зьменшыць збажовы кантынгэнт, тлумачачы гэтае тым, што збожжа сёлета гарэй урадзіла, а знача цэны на яго і так будуць вышэйшымі, чым у мінулым годзе.

*N.*

## Як палепшыць ураджаі.

1. Каб атрымаць добры ўраджай збожжа, бульбы і лёну—ў грунце павінна быць патрэбная колькасьць азоту, калія і фосфарнай кісьлі.

2. Недахоп гэтых субстанцыяў ня можа быць папоўнены гноем у той колькасьці, ў якой ён вывозіцца ў нашых гаспадароў.

3. Канюшына, віка і іншыя бабовыя расьліны прысвойваюць азот з паветра і награмаджаюць яго ў грунтох у вялікіх колькасьцях; дзеля гэтага ўзбагачываць глебу азотам выгадней за ўсё пры помачы замены трохпалёўкі на шматпольную сыстэму.

4. З нашых расьлінаў фосфарнай кісьлі патрабуюць больш за ўсё жыта, авёс, канюшына, ячмень і бульба.

5. Фосфарную кісьлю ў большасьці выпадкаў выгадней ужываць у постаці томас-шляку пасьля канюшыны, на тарфяністых-жа грунтох можна ўжываць фосфарыт.

6. Калі выгадней даваць у форме попелу, каініту, і калійнай солі, пры чым каініт неабходна рассыпаць у восеньні або вельмі раньняй вясной.

7. Нашы грунты больш патрабуюць фосфарнай кісьлі як азоту і калію і дзеля гэтага трэба перадусім клапаціцца, каб у грунце яе было даволі.

8. Усе гэтыя штучныя гнаі ўжываюцца і ў агародах пры пасадцы агуркоў і капусты, а томас-шляк пры пасадцы садовых дрэваў.

9. На добрых грунтох ураджай канюшыны значна можна павялічыць, дадаючы вапны; апрача таго вапнаваньне прыносіць вялікую карысьць і ў агародах.

10. На тарфяністых грунтох вельмі часта не стае вапны.

11. Сенажаці нашыя можна палепшыць, пасыпаючы іх каінітам і томас-шлякам.

12. Штучныя гнаі дзеюць не адзін год, а паляпшаюць ураджаі ў працягу некалькіх гадоў.

*А. Б.*

## Перахоўка бульбы.

На зіму перахоўваецца бульба ў капцох або ямах. Капцы робяцца ў сухім месцы каля хаты. Капаецца капец ня глыбака, прыблізна на лапату, і шырынёй і даўжынёй ад $1\frac{1}{2}$—2 мэтры. На гэтае месца звозіцца бульба і сыплецца капец так, каб бульба трымалася на вяршку. Гэтак зложаную бульбу пакідаем на 1 дзень, каб яна перасохла (калі-ж ідзе дожд накрываем саломай), а пазьней кладзецца слой роўнай саломы і прыкрываецца зямлёй. Ня трэба адразу прыкрываць увесь капец, а на гары трэба зрабіць адтуліну, праз якую магла-б выходзіць з бульбы вільгаць. Пазьней, калі прымаразкі пачнуцца, трэба добра аглядзець капцы і прыкрыць іх зямлёй, каб зімою бульба ня зьмерзла.

Бульбу можна перахоўваюць таксама і ў ямах, але трэба высьцерагацца, каб ня была блізка падскурная вада. Грунт павінен быць сухі.

*А. Б.*

## На гішпанскім фронце.

Як паведамляюць газэты, паўстанцкія войскі акружылі сталіцу Гішпаніі — Мадрыд з усіх бакоў. Горад зусім адрэзаны ад сьвету. Насельніцтва сталіцы, пазбаўлена давозу спажывецкіх прадуктаў, галадае. На вуліцах пануе цемра, бо электрычная станцыя, якая дастаўляла электрычную энэргію Мадрыту, у руках паўстанцаў. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе Мадрыд апынецца ў руках паўстанцаў. Паўстанцы час ад часу робяць самалётныя напады, якія тэрорызуюць насельніцтва сталіцы. Колькасьць раненых усьцяж павялічваецца.

## Французска-савецкі дагавор хістаецца.

Сэнатар Анры Ай пастанавіў унясьці ў сэнат праэкт рэзалюцыі, у якой французскаму ўраду будзе запрапанована адмовіцца ад французска-савецкага пакту, або хаця-б яго зьмяніць. Паводле думкі Ай небясьпека, якую Францыі спрычыняе пакт з СССР, настолькі вялікая, што сэнатары забавязаны ў сьпешным парадку заняць пэўную пазыцыю ў гэтым пытаньні. Французска-савецкі пакт — кажа Ай—значна аслабіў міжнародную пазыцыю Францыі і ён быў прычынай канца французска-бэльгійскага саюзу. Асабліва вялікая небясьпека, паводле думкі Ай, пагражала-б Францыі ў тым выпадку, калі-б СССР зрэалізаваў свой плян у адносінах да Гішпаніі.

# УСЯЧЫНА.

## Колькі ў Польшчы хатняе жывёлы.

Апошняя перапісь хатняе жывёлы, зробленая 30-га чэрвеня сёлетняга году, паказала, што ў палове сёлетняга году ў Польшчы было: коняў 3 мільёны 821 тысяча, скаціны раг. 10 мільён. 163 тысячы, сьвіней 7 мільёнаў 53 тысячы, авечак 3 мільёны 20 тысяч і козаў 378 тысяч штук.

У параўнаньні з леташнім годам найбольш прыбыло ў гэтым годзе авечак і сьвіней, дзеля чаго можна спадзявацца, што цана на сьвіньні ня пойдзе ўгару, а можа нават трохі абнізіцца, хіба што ўзрост цэнаў на збожжа зьменшыць выкормліваньне сьвіней і гэтым затрымае цэны на сьвіньні.

## Якога збожжа найбольш у Польшчы

З гаспадарчай статыстыкі за 1935-36 гады відаць, што збажовыя расьціны ў Польшчы займалі наступныя плошчы: пшаніца 1 мільён 741 тысячу гэктараў, жыта 5 мільёнаў 828 тысяч гэктараў, ячмень 1 мільён 187 тысяч гэкт., авёс 2 мільёны 254 тысячы гэкт., бульба 2 мільёны 893 тысячы гэктараў.

Агулам чатыры галоўныя гатункі збожжа разам з бульбай займаюць 3 чэцьверці ўсяе ворнае зямлі ў Польшчы, жыта-ж з бульбай займае каля паловы пасеўнае плошчы, і таму Польшча зьяўляецца краінай жыта і бульбы.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.